Беларускі
ПЭН
Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусi

## выпуск 21 (34)

1 чэрвеня 2021

*«Адзін жыве, каб проста жыць і жылі яго дзеці, – і гэта нармальна, а іншы кіруецца нейкімі большымі вымярэннямі. Агідна будзе, калі мы ўласнымі рукамі для сябе і дзяцей выбудуем турму», – Аляксандр Ждановіч.*



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**Паўлу Севярынцу 25 траўня прысудзілі сем гадоў калоніі. У судзе Павел скандаваў «Верым! Можам! Пераможам!», за гэта ён быў пакараны.**



**У Беларусі прызналі палітвязнямі яшчэ 21 чалавека, сярод іх – Сяргей Волкаў, актор Палескага драматычнага тэатра. Сяргей быў затрыманы, меркавана, паводле «Пінскай справы» і з 5 траўня знаходзіцца ў СІЗА г. Баранавічы.**



**Юліі Чарняўскай прад'яўленае абвінавачванне, аднак яе адвакатцы забаранілі апублічваць любую інфармацыю.**



**У Аксаны Зарэцкай, спецыялісткі па этыкеце і культуры, сябры Каардынацыйнай Рады, 26 траўня адбыўся вобшук, пасля яна была запрошаная на размову «аб недапушчальнасці супрацьпраўных дзеянняў» і адпушчаная.**

**<u>Аляксандра Ждановіча</u>, актора і тэлевядучага, <u>звольнілі</u> з Нацыяанальнага акадэмічнага тэатра імя Максіма Горкага «за здзяйсненне амаральнага ўчынку, несумяшчальнага з магчымасцю працягу працы ў тэатры». Сам артыст лічыць, што прычына звальнення – яго грамадзянская пазіцыя. У лістападзе 2020 года актора асудзілі на дзевяць сутак адміністратыўнага арышту за ўдзел у акцыі пратэсту.**






**У краязнаўчым музеі Віцебска <u>забаранілі</u> выставу фотамастака і краязнаўца Віктара Барысенкава «Самое время вспомнить», прысвечаную страчанай спадчыне Віцебска.**



**Віцебская кавярня «Бісквіт», дзе ладзіліся шматлікія культурніцкія імпрэзы, ад 31 траўня спыняе працу. Прычыны закрыцця звязваюць з канцэртам Алеся Дзянісава «Леаніды вяртаюцца...». Алесь Дзянісаў быў затрыманы і збіты 11 жніўня 2020 года. 18 сакавіка яго выклікалі на допыт у Аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі.**

# 2. СІМВОЛІКА



**Стэфанія Ціхінская, рэжысёрка і мастачка, 24 траўня была асуджаная на 10 сутак за бел-чырвона-белыя сэрцайкі ў акне.**



**26 траўня адбылося пахаванне Вітольда Ашурка ў Бярозаўцы. На ўездзе стаялі патрульныя машыны і не пускалі людзей з сімволікай.**



**Барыс Хамайда, актывіст, які ў цэнтры Віцебска распаўсюджвае беларускую літаратуру, газеты і часопісы пад бел-чырвона-белым парасонам, зноў затрыманы 27 траўня.**

**Актывістаў і актывістак, якія раней былі прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасці за правядзенне «несанкцыянаваных масавых мерапрыемстваў», спрабуюць прыцягваць да адказнасці паўторна, часта па абсалютна не абгрунтаваных абвінавачваннях.**

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

**Мастацтва памяці Вітольда Ашурка**



**Sergei Ski**



**allkimiya**



**Вольга Якубоўская**

Мастацва, якое адлюстроўвае іншыя падзеі





Андрэй Жалязка
...пролетая над гнездом кукушки…,
25.05.2021

Вольга Якубоўская
Мэру Рыгі Марціньшу Стакісу



Vera MoPer
аэрапорт будучай Беларусі



Вялікі <u>анлайнавы канцэрт</u> **Вольнага хору**
з праграмай «**Муры**»
адбыўся 27 траўня.



<u>Канцэрт</u>
**памяці Вітольда Ашурка**.




У падтрымку рэпрэсаваных культурных дзеячоў, беларускі пісьменнік **Саша Філіпенка** ахвяраваў на <u>дабрачынны аўкцыён</u> тры выданні сваіх раманаў, якія падпіша персанальна для пераможцы аўкцыёну.

БТ выключылі з Еўрапейскага Вяшчальнага Саюза.

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Ганна Севярынец пасля прысуду Паўлу Севярынцу:**

***«Нягледзячы на тое, што цяпер навокал вялікая колькасьць пакутаў, што вельмі цяжка ўтрымацца ўнутры сябе ад нянавісці, злосці, праклёнаў, калі я рэфлексую, разважаю, то непазбежна прыходжу да шкадавання. Мне вельмі шкада людзей, якім даецца жыццё, і яны марнуюць яго на страх, на ўчынкі, за якія ў сне будзе сорамна, у старасці будзе сорамна. Ніхто з іх не зможа сказаць: мы будзем расказваць сваім унукам, што мы рабілі 25 траўня 2021 году. Для нашых дзяцей і ўнукаў гэта будуць легендарныя расповеды. А ніхто з іх не зможа сказаць: я, унучак, 25 траўня 2021 году выносіла прысуд Севярынцу».***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

Шэраг арганізацый, такіх як
ПЭН-Масква і асацыяцыя «Вольнае слова»,
Міжнародны ПЭН-клуб,
ПЭН Амерыка,
Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны
выступілі ў абарону
затрыманага журналіста і блогера Рамана Пратасевіча.




Падрабязны агляд
беларускага пратэставага мастацтва
склала Ія Ківа –
украінская паэтка і перакладчыца.

Падборка працаў Joep Bertrams –
класіка еўрапейскай карыкатурыстыкі –
прысвечаных нашай краіне.

У Дрэздэне праходзіць выстава «**Маўклівасць. Гучная цішыня**»
з удзелам **беларускіх паэтаў**.




У берлінскім выдавецтве
**Edition Fototapeta** выйшлі кнігі
**Юлі Цімафеевай** «Мінскі дзённік»
і **Альгерда Бахарэвіча** «Яны ўжо прайгралі»
ў нямецкіх перакладах.
Анлайнавая прэзентацыя прайшла 28 траўня.

Фільм «**Кураж**» кінарэжысёра
**Аляксея Палуяна**,
які расказвае пра падзеі
пратэставага лета-2020, намінаваны
на ўзнагароду
«Найлепшы дакументальны фільм»
**Берлінскага кінафестывалю**.





**Святлана Алексіевіч** і **Анджаліна Джалі**
абмеркавалі сітуацыю ў Беларусі
на сустрэчы, якую зладзілі
**Беларускі фонд культурнай салідарнасці**
разам з **Amnesty International**.

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**1 чэрвеня – Дзень Народзінаў Марыі Каленік, палітзняволенай студэнткі і будучай дызайнеркі.**

**Марыя была затрымана 12 лістапада ў межах крымінальнай справы па ч. 1 арт. 342 КК РБ (Арганізацыя альбо ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак), ёй прад’яўлена абвінавачванне.**

**Сястра Марыі расказвае, што дзяўчына востра ўспрымае несправядлівасць:**

**«Яна, як і многія, супраць фальсіфікацыі выбараў і супраць гвалту, супраць дыктатуры – і гэтую пазіцыю яна адкрыта выказвала. Мы атрымалі ад яе тры лісты. Бабулі яна піша, што ні пра што не шкадуе, што верная сваім прынцыпам і каштоўнасцям, што не падае духам. Піша, што вельмі сумуе».**

**Каб павіншаваць Марыю лістом ці паштоўкай, пішыце на адрас: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.**

